# Пока мы молчим, власть убеждена, что мы довольны

*Это ключевая фраза из листовки Могилевского клуба избирателей, листовки, наводящей на размышления и недвусмысленно предлагающей людям осознать наконец себя людьми. А пока суд да дело, я беседую с одним из авторов этого документа, председателем областной организации Объединенной гражданской партии Валерием Ивановичем Сивухой.*

**— Как воспринимать выборы в городской и областной советы?**

— Все демократические кандидаты "зарублены". Остались врачи, учителя, т.е. совершенно бесправные люди, получающие нищенскую зарплату. Ни о каком противодействии властям с их стороны не может быть и речи. Естественно, хотят они того или нет, а с их помощью и укрепляется режим. Бюрократы в горисполкоме и облисполкоме нашли себе занятие. Если выборы не состоятся, это даже будет им на руку — через полгода опять будет чем заниматься. Нынешнее законодательство таково, что можно любого бомжа с улицы взять и провести его в депутаты. Разве не об этом, только в поддержку такого положения, предвыборная статья территориального представителя президента Т.Белкиной в "МВ". Как старательно пересчитала она личные автомобили у потенциальных кандидатов-предпринимателей. Другое дело кандидаты от простого "трудящегося народа". Власти как раз такие и нужны. Так, как это и было в советские времена все 70 лет.

**— Сейчас ни одна российская информационная программа не обходится без упоминания о событиях, происходящих в Минске. У нас же — по большому счету — молчание. К чему это может привести и чем это объясняется?**

— Существует вариант, который настораживает и довольно опасен. Это вариант Париж-Вандея, когда столица кипит, а провинция молчит. Котел начинает взрываться и события развиваются по румынскому пути. Надеюсь, что до этого не дойдет.

**— И по какому же принципу должна строиться политика в таких условиях?**

— Это в демократической стране бывает политика — столкновения программ, работа над имиджем, стремление понравиться избирателям... А в авторитарном государстве политики нет, а есть борьба с режимом. Сейчас нужно не выяснять партийную принадлежность и приверженность тем или иным взглядам, а формировать широкое национально-освободительное движение, которое должно включать всех — начиная с БНФ и кончая коммунистами. И вообще, о каких разногласиях может идти речь, когда нарушается Конституция, а фактически ее нет.

**— Надо понимать, что основная цель — всколыхнуть людей?**

— Всколыхнуть не так просто. Дело в том, что у человека есть определенный барьер инерции. Даже когда его прижимают, он не решается пойти на митинг. Поэтому основная задача наших массовых акций — преодоление этого барьера. Людям нужен пример. Это помогает освободиться от страха. Сорвалась одна демонстрация — нужно организовать другую, не удался митинг — ни в коем случае не опускать рук. Только таким путем можно добиться критической массы. Что это такое? Человек не придет на площадь сто первым, не придет и тысяча первым, а вот десятитысячным придет. А в Могилеве, чтобы изменить ситуацию, именно столько недовольных и нужно. В Минске —300-400 тысяч. Ведь почему не подписывают с руководителем свободных профсоюзов С.Ободовским соглашение на уровне горисполкома? Говорят, что мало их —представителей свободного профсоюза. Вот была бы у вас тысяча... На что тот вполне резонно отвечает: "Была бы тысяча, мы бы с вами вообще по-другому разговаривали". Пока считаются только с теми, у кого сила.

**— Но какие-то сдвиги в массовом сознании все-таки происходят?**

— Да. Те люди, которые раньше были совершенно безразличны к тому, что происходит, начинают роптать. Но наступление переломного момента спрогнозировать невозможно. Это чисто эмоциональный фактор и когда он сработает, неизвестно. Наша беда в том, что мы загипнотизированы сегодняшним днем. Но жизнь ведь на месте не стоит. Например, три года назад была совершенно иная ситуация. Не говоря уже о том, что было 10 лет назад. А если посмотреть статистику, то 20 лет назад 80% стран имели авторитарные режимы...



**— Как в нынешней ситуации складываются у демократов отношения с местными властями?**

— Совершенно безнадежно. Больше всего эти люди боятся, что их кто-нибудь уличит в антипрезидентском поведении и контактах. Власть отличают весьма гибкие моральные принципы. Ведь все они — и Сивицкий, и Иваньков, и Шориков — состояли недавно еще в Гражданской партии, демократической и рыночной. Но при чем здесь, как видим, их убеждения, если привычка к власти и кастовость перевесили.

**— Сейчас, наверное, не приходится говорить об обновлении партийных рядов...**

— Почему же? К нам приходят "разорившиеся" предприниматели, люди активного возраста. Естественно, власть не вызывает у них симпатий, а при своих организаторских способностях и устоявшихся связях они нам могут здорово помочь и уже помогают.

**— Есть ли в Могилеве политик, который мог бы возглавить все оппозиционное движение?**

— Сейчас нет. Более того, я думаю, что его назначить или даже выбрать невозможно. Он появится, когда придет время. Наша трудность в том, что гражданское и политическое формирование белорусского общества еще не завершено.

**— Я знаю, что вы — представитель в Могилеве Белорусского Хельсинского Комитета, который занимается правозащитной деятельностью...**

— Наш комитет представляет собой часть международного движения, которое возникло после Хельсинского совещания 1975 года. Работы хватает. Сейчас мы выпустили 2-ой номер "Могилевского бюллетеня БХК". Мы информируем общественность о нарушениях прав человека —политических, экономических, социальных в Могилеве и области. Рассылаем бюллетени в правоохранительные органы, предпринимателям, руководителям предприятий. Резонанс есть. Первый бюллетень носил чисто политический характер, второй рассматривает отношение государства к человеку на примере предпринимателя, пытавшегося отстоять свои права и получившего за это 10 суток тюрьмы. Вывод печальный: если право нельзя отстоять даже в суде, то его не существует. На базе многочисленных материалов мы пишем Белую Книгу о правах человека по Могилевской области. Все это, надеюсь, будет способствовать конечному результату нашей работы — созданию суверенной демократической республики Беларусь.

*P.S. Валерий Сивуха на днях привел в полное замешательство правозащитницу из Эстонии, сообщив ей, что за административное нарушение у нас налагается штраф в 150 минимальных зарплат, что эквивалентно 1000$. А это, в свою очередь, составляет стоимость подержанной квартиры. Таким образом, за административное нарушение — конфискация имущества. "Но на основании какого закона издан этот декрет президента?" "А это и есть сам закон", — ответил Валерий Сивуха.*

**Что здесь еще добавить?**

Приобщилась к гражданскому ненасильственному неповиновению

**Саша ГЖЕЛЬСКАЯ.**

# Вясёленькая ўнас кампанія

Услед за Пітэрам Бэрнам з краіны высланы амерыканскі дыпламат — за нібыта ўдзел у несанкцыянаваным мітынгу і шэсці ў Мінску. Дэпартамент і амбасада гэта абвяргаюць. І Пітэр Бэрн не ўдзельнічаў у палітыцы, і Серж Аляксандраў, амерыканец беларускага паходжання, не прымаў удзел у мітынгу і шэсці, і тым больш іх не арганізоўваў, а назіраў, для чаго ўласна ў чужых краінах і працуюць не толькі шпіёны — тайна, але і дыпламаты — адкрыта.

Дзе гэтыя амерыканцы і тая Амерыка ад Магілёва? Я зусім не пра тое, каб выступіць на іх абарону, на гэта і ўвагі ніхто не зверне. Я пра антыамерыканізм як праяву саму па сабе. Па ёй можна смела меркаваць аб стане грамадства, палітыцы ўладаў і ўнутраным становішчы краіны. Заўсёды ў антыамерыканізму аднолькавыя прычыны, дзе б ён не праяўляўся.

Амерыку не любяць бедныя краіны. Амерыку не любяць таталітарныя рэжымы. Амерыку не любяць тыя, хто насамрэч нічога аб ёй не ведае, а карыстаецца штампамі яшчэ савецкай прапаганды. Люмпены, нават і пры высокіх пасадах, як і належыць люмпенам, не даруюць Амерыцы не столькі нядобрых учынкаў (у каго іх не бывае!), колькі як раз учынкаў добрых і шчырых.

Таму і замоўчваўся гадамі важкі ўдзел Амерыкі ў перамозе над фашызмам. Яе дапамога пасляваеннай Еўропе. Яе прынцыповасць і ўмеласць у дасягненні міру там, дзе ўзнікаюць у свеце ваенныя канфлікты. Яе дабрачыннасць і бескарыслівасць у дапамозе людзям падчас крызісных сітуацый, катастрофаў, грамадзянскіх войнаў. Яе настойлівасць і шчырасць у абароне правоў чалавека і дэмакратыі...

За гэта яе і не любяць краіны (іх улады, вядома), якім ніякай дэмакратыі, свабоды і добрага жыцця для сваіх народаў і дарма не трэба. Цяпер іх спіс папоўніла Беларусь, практычна адзіная краіна з ліку былых савецкіх рэспублік, практычна адзіная краіна з еўрапейскага кантыненту. Затое сябры ў гэтай палітыцы на іншых кантынентах у нас яшчэ ёсць: Куба, Паўночная Карэя, В'етнам, Ірак, Лівія... Нічога не скажаш, добрая падабралася кампанія для краіны, што не супраць лічыць сябе цывілізаванай.

Г.С.

# А вы гаворыце: единство

Назаўтра пасля свята Гумару (наша публікацыя да яго на 4-ай старонцы газеты) у нашай краіне яшчэ адно свята — День единения народов Беларуси и России. Да ўсіх іншых чырвоных дзён беларуска-савецкага календара прэзідэнт сваім указам дадаў і гэты.

Вялікія і знакамітыя даты нашага сапраўднага гістарычнага календара ў дзяржаве афіцыйна не адзначаюцца і не святкуюцца. Гэтыя даты помняць выключна апазіцыянеры і суродзічы за мяжой. За гэта апазіцыянераў разганяюць, б'юць і нават трымаюць за кратамі. Толькі ў замежжы і святкуюць адкрыта і прыстойна. Але, на жаль, не ў блізкім, брацкім і сардэчным.

Нават больш. Вялікі сябра беларусаў Віктар Чарнамырдзін у лёгкай і амаль жартоўнай гаворцы перад журналістамі і тэлекамерамі запроста дазваляе сабе паставіць кропку на гістарычных адносінах паміж дзвюма краінамі: НИЧЕГО ТАМ НЕ БЫЛО. ВСЕГДА БЫЛА ДРУЖБА, ОДНА СУДЬБА И ЕДИНСТВО. А прэзідэнт суверэннай краіны нашай, стоячы побач з ім, з разуменнем і гатоўнасцю ківае галавой. Вось гэта была сцэнка!

Гэты дзень, 2-га красавіка, святкавацца ў Беларусі безумоўна будзе. Не ведаю, што там арганізуе апазіцыя, але чуе сэрца, што і ўлада на гэты раз звязе ў Мінск на "альтэрнатыўны" мітынг пасланцоў "трудового народа". Грамадскі падзел, які і так пануе ў краіне і набірае тэмпы, вызначыцца і акрэсліцца яшчэ больш выразна. А гэта самае небяспечнае для любой краіны, для любога народа. Не сутычкі людзей, не палітычны вышук, не аднабаковая прапаганда і не шэрагі ОМОНА тут патрэбны, а навуковая аб'ектыўнасць, дыскусіі спецыялістаў, кампрамісы палітыкаў, дамовы паміж уладай і апазіцыяй. Але ж у парламенце нашым намаганнямі выканаўчай улады засядаюць цяпер адны "аднадумцы", таму апазіцыя вымушаная заяўляць аб сабе не перад мікрафонамі залы паседжанняў і ў сродках масавай інфармацыі, а выключна на вуліцах і плошчах. Добрага тут мала для іх.

Тым больш, што праўда аб гісторыі свайго народа патрэбная зусім не для таго, каб прад'яўляць рахункі за мінулае цяперашняй Расіі або, скажам, Польшчы. Вядома, што гэта дзікасць і не аб тым гаворка. Не выстаўляе тая ж Расія сваіх прэтэнзій за мінулае, напрыклад, да Францыі або хаця б да Германіі. Гісторыю не пішуць нанова і не выстаўляюць ёй адзнакаў з вышынь сучаснасці. Яна — памяць душы і сэрцаў пакаленняў, каб яны ў адных выпадках ганарыліся продкамі, а ў іншых, магчыма, і саромеліся. Што рабіць, так было — думайце, сучаснікі, над тым, каб дрэннае не паўтаралася. Памяць, веды, праўда, і маральнасць — вось асноўныя падмуркі для жыцця і развіцця любога народа і грамадства.

На жаль, у нас не разумеюць гэтага нават гісторыкі па адукацыі, нават на высокіх пасадах. І з усяго канфлікту паміж урадам і апазіцыяй у Маскве (кастрычнік, 93) наш прэзідэнт засвоіў толькі прыклад, што паказаў Б.Ельцын танкавым стрэлам па Беламу дому.

Але ж напачатку, успомнім, былі там шматлікія перамовы, захады да кампрамісаў, перагаворы з удзелам старшыні Канстытуцыйнага суда, патрыярха, прэм'ер-міністра, дэлегацый дэпутатаў і прадстаўнікоў выканаўчай улады. Калі ўсе гэтыя меры, успомнім, не далі вынікаў, калі замест саступак апазіцыя, успомнім, прызначыла ноччу новага прэзідэнта пры дзеючым старым, калі хазбулатаўскі парламент узброіўся сам і ўжо кіраваў узброенымі атрадамі па захопу дзяржаўных установ — тады толькі і грымнуў той танкавы стрэл. Як адзіна магчымы адказ на спробу дзяржаўнага ўзброенага перавароту.

У нас усё не так. Якія там перагаворы, канстытуцыйныя сходы, круглыя сталы, дамовы і кампрамісы. Ёсць у краіне тыя, каго прэзідэнт лічыць "правільнымі" грамадзянамі — і ёсць тыя, каго адносіць да сваіх непасрэдных ворагаў, вартых толькі знішчэння.

А ВЫ ГАВОРЫЦЕ, ШТО Ў НАС 2-ГА КРАСАВІКА СВЯТА ЕДИНЕНИЯ...

**Генадзь СУДНІК.**

# Навіны партыйнага жыцця

У нядзелю 23 сакавіка быў затрыманы старшыня Магілёўскай гарадской арганізацыі сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная грамада" Уладзімір Лапцэвіч. Яго затрымалі падчас таго, як ён разам з сябрамі па партыі распаўсюджваў віншаванне з 79-мі ўгодкамі абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Акрамя гэтага яго абвінавацілі ва ўдзеле ў несанкцыянаваным шэсці ў дзень Канстытуцыі, хоць і не было прадстаўлена доказаў, што гэта было шэсце і, што спадар Лапцэвіч у ім удзельнічаў. Аднак ён быў выкліканы ў суд і пакараны, на першы раз, як водзіцца па дэкрэту N5, штрафам.

Уласная інфармацыя.

*Вясновыя карцінкі: Атланты на гэтым старажытным будынку хварэюць і лупяцца цэлымі кавалкамі —грошай на рамонт няма. А тут грошы, хоць і сціплыя, знайшліся — у гэтага атланта хутка дзень нараджэння.*





# Усіх прафесіяналаў і прыхільнікаў тэатральнага мастацтва віншуем са святам — Міжнародным днём тэатра!

Напярэдадні Міжнароднага дня тэатра наш карэспандэнт звярнуўся да кіраўнікоў прафесійных магілёўскіх труп. **Алег Жугжда** — знакаміты рэжысёр, сустракае свята ў новай якасці.



— Мне пришлось взять на себя такую смелость — сесть в кресло директора и художественного руководителя областного кукольного театра. Художественный руководитель — это не ново, в принципе я исполнял эти функции, будучи главным режиссером. Но чисто административные вопросы — это намного сложнее. Насколько я для себя понял, работа директора состоит в смелости принятия решений. Второе, чем приходится заниматься, это просить то, что и так должно быть.

**— На творчестве не сказалось такое раздвоение?**

— Сказалось. Конечно, надо быть не только двужильным. Я с трудом поставил "Соловья" и до сих пор еще он в несостоявшейся форме. Каждый спектакль я продолжаю что-то менять, доделывать, переделывать.

В планах? Дай бог отметить театральный день рождения. Может быть, но это опять деньги, сделать "Ляльку" — республиканский праздник кукол и кукольников. Дай Боже, вывезти театр на фестивали, куда мы уже приглашены — в Рязань и Ужгород...

**— Это в вас говорит больше директор и художественный руководитель, а как режиссер Жугжда?**

— У меня должен быть спектакль в Минске в конце этого года, и "Русалочка", в новом восприятии. На нашей сцене будет работать Алексей Ляцкий, который приглашен на постановку "Веселого цирка". Спектакль по пьесе его отца и в память о нем как о педагоге, режиссере, человеке, который создал профессиональный белорусский театр кукол. У него учился и я, и очень многие кукольники. Это будет спектакль памяти.

**— Международный День театра в ваших стенах всегда долгожданная феерия, настоящий день рождения для актеров и гостей. И всегда неожиданная...**

— Вот в этом году у нас настоящий День рождения 23 мая — 20-летие театра. И это нам еще с вами предстоит. Поэтому может быть не будет чего-то "ахового" в День театра. Мы решили сделать спокойную композицию на тему серебрянного века поэзии, театра и того, как это можно соотнести со всеми нами.

**— Изящество серебряного века и мы! Интригующе.**

— Конец эпохи. Мы повторяем все, что было когда-то. Такая вот повышенная чувствительность, легкая экзальтация, моменты, когда приоткрывается что-то сокровенное, безумие общее и легкое, сумашествие каждого. И эта комета в небе, и эта странная весна — все складывается в предчуствие. Конечно. Серебряный век!

А ко Дню рождения театра может что-нибудь выйдет с Шекспиром. Это будет сверхэлитарно и сверх для взрослых. Это подарочек самим себе. Горько, что спектакль никому не будет нужен!

**— Откуда столько пессимизма?**

— От зрителя. Часто приходится бывать в достаточно, как сейчас говорят, интеллигентных кругах, где как только узнают откуда я, слышишь: — "Ах, у вас такой театр, такие спектакли!" — "Вы что, были?" — "Нет, — говорят. — Но мы сходим". Это больно. Почему нет потребности? Дело ведь не в рекламе — и центр, и газеты пишут, но нет потребности!

**— Духовное обнищание?**

— Да. И страшное. Обидно не то, что голодные и раздетые, обидно, что нищие духом.

Нищие, не нищенствуйте!

**Виктор Куржалов,** директор и художественный руководитель областного драматического театра, не стал обсуждать с нами тему затянувшейся реконструкции исторического здания своего театра, а обозначил задачу года как творческую реконструкцию.



— Потому что, если говорить очень грубо, то последние 15 лет наш театр ориентировался на производственную деятельность, т.е. существовал как предприятие, создавшее при минимуме необходиомых затрат дорогостоящий товар —спектакли. Может быть, именно сегодня мы подошли к крайней черте, когда понимаем, что не создав творческого потенциала, наша деятельность теряет всякий смысл. Поэтому как бы не было сложно экономически, сегодня актерская студия — это глоток воздуха. И не только она, актеры это только треть труппы, все остальные — тоже творческие работники. А то,ч то театр долгое время "без дома", во многом разрушило коллектив.

**— Но ведь удалось и в этих условиях поставить, к примеру "Ричарда"? Сценография, костюмы, актеры — все далеко не провинциального уровня, а спектакль не пошел...**

— Есть история, которая называется взаимоотношениями города и театра. Снижение качественной планки воспитало и зрителя так, что он отверг спектакль, достойный столичной сцены. Это и ответ на следующий вопрос: почему у нас нет на гастролях ни колосовцев, ни купаловцев.

**— Зритель совсем потерян или есть надежда?**

— В этом сезоне мы позволили себе организовать, в этом наше достижение, отдельные спектакли для школьников. Не бойтесь слова организовать, их никто сюда не загоняет. Но перед спектаклем с ними работает методист, он же готовит спектакль к восприятию его этой категорией зрителей. И мы ощутили даже уже на вечерних спектаклях, что зритель все меньше стал требовать "зрелищ", а все больше стал прислушиваться к нам.

**— А появление музыкальных спектаклей в афише драматического театра — тоже попытка вернуть зрителя?**

— Это нормально, естественно. Если говорить о творческой структуре современного театра, то музыкальная часть в нем обязательна. Когда-то полнокровная музыкальная часть в нашем театре была, создавалась даже специальная музыка для спектаклей. До сих пор идет "Волшебник Изумрудного города" на музыку композитора Владимира Браиловского. Сейчас появился у нас Александр Баль, со своим лицом. И в этом, если хотите, специфика областного театра — он должен быть синтетическим, в чем-то детским, в чем-то музыкальным. И то, что мы начали петь, появились музыкальные постановки, это как раз естественно и хорошо.

**— ...И поэтому традиционный бенефис в День театра вы заменили концертом А.Баля?**

— Да! Актеры на сегодняшний день, как и зрители, достаточно усталый народ. Им особенно тяжело ввиду их социального положения и обостренного восприятия всех проблем. Как совместить, чтобы День театра был и праздником для зрителей, и выходным днем для актеров? Александр Баль позволил нам это сделать.

**Алена БАРЫСАВА.**

## З днём нараджэння, калегі!

*Першага красавіка не толькі Дзень гумару, але і дзень нараджэння ў Магілёве 2-га тэлеканала. І добра, што падзеі адзначаюцца ў гэты дзень. Бо сапраўды з'яўленне тры гады назад у нашым горадзе на асобным канале недзяржаўнай тэлестудыі сталася справай смелай, адчайнай і, зразумела, вясёлай. Горад абавязаны тым кіраўніку фірмы "ДЫОН" Аляксандру Астапаву —смеламу, адчайнаму і, зразумела,вясёламу чалавеку.*

*За тры гады існавання Другі канал перажыў і творчыя ўзлёты, і творчыя няўдачы, трымаў і прапускаў "удары" лёсу, змагаўся за месца ў сэрцах гледачоў нароўні з афіцыйнымі каналамі. І нарэшце стаў такім як сёння: з "жыцейскімі" гарадскімі навінамі, папулярнымі музычнымі віншаваннямі, рознаякаснымі фільмамі для дарослых і дзяцей.*

*Вясёлы гэта подзвіг — выжыць сёння на экране ў акружэнні пяці тэлемонстраў, якім дзяржавы і рэкламныя агенцтвы плоцяць велізарныя грошы. А тут жыве канал, самастойна і з аптымізмам, на сродкі, якія пазначаюцца тым жа словам, але з націскам у іншым месцы — грашы. І будзе, відаць, жыць. І трэба, каб жыў.*

*З гэтым і віншуем!*

ТЫДНЁВІК.

# "Скажыце, Маня"... альбо Куфэрак жартаў беларусаў

*Вядома, беларусы не маюць гэткай гумарыстычнай славы, як тое ж балгарскае места Габрава або ледзь не родная ўсім Адэса. У нас гумар прадстаўлены часцей не ўласна анекдотамі і народнымі жартамі (хоць і іх даволі), а той прыхаванай ірoніяй, што нязменна прысутнічае ў казках, легендах і паданнях нашага краю, у мілагучных песнях, прыказках і прымаўках роднае старонкі. А можаце ж сабе ўявіць, які гэта велізарны пласт культурнае спадчыны нашае нацыі!*

*Але гэты артыкул не прэтэндуе на якуюсь акадэмічнасць альбо навуковасць, таму абмяжуемся толькі прыўзняццем заслоны над багацейшым скарбам беларускага народнага гумару. А то ж, калі меркаваць па школьных падручніках беларускае мовы і літаратуры савецкага перыяду, дык складваецца ўражанне, што беларус толькі тое і рабіў, што хадзіў хмурны і з каўтуном у валасах ды залiваўся слязьмі, капаючы бульбу "дробную, гнілую"...*

*Ведаючы ж, што найперш тая нацыя лічыцца здаровай, якая здольная бачыць свае хібы ды смяяцца з іх і звернем увагу на тое, як заўсёды беларусы ўмелі жартаваць і смяяцца з саміх ж сабе...*

**Юрась ПІВУНОЎ**

Стаіць беларусь перад газетным стэндам, чытае аб'яву пра павышэнне падаткаў і жаліцца сам сабе:

— Ой цiснуць! Ой цiснуць!

Да яго падыходзіць міліцыянт і пытаецца:

— Хто ціснe?

— Боты.

— Дык ты ж босы!

— Таму і босы, што цiснуць!

***

Крыўдзяць беларуса, а ён стаіць і маўчыць.

— Цябе ж крыўдзяць, чаму ж маўчыш?

— Няхай крыўдзяць, абы не білі.

— А як біць будуць?

— Няхай сабе б'юць, абы не забілі.

— А як будуць забіваць?

— Ну і няхай забіваюць, абы не крыўдзілі.

***

Сусед зайшоў у хату да знаёмага.

— Здароў, Ганна!

— І ты здароў, — адказвае гаспадыня.

— Антон у хаце?

— У хаце.

— То пакліч яго.

— Не магу. Памёр ён.

— А... То ён і ў грыбы са мною не пойдзе?

***

Двое беларусаў вяртаюцца ў вёску напападпітку. Ноч.

— Ці бачыш? — гаворыць адзін з іх. — У тваю хату праз вакно злодзей лезе.

— Ціха, ціха, няхай лезе... Жонка падумае, што гэта я. Ну і будзе дыхту, зарачэцца ён красці.




***

Вядзе Кастусіха п'янага Кастуся, а Парфеніха ёй з-за плоту:

— Ён што, дарогі да дому не ведае?

А Кастусь на гэта:

— Мне родная жонка дарогу паказвае, а твайго там мужыка чужыя людзі дадому вядуць!

***

Шавец, адрабіўшы ў пана, падаў за сваю працу такі рахунак: "пану падбіў падносікі і прышыў вушы, панскай жонцы паправіў нос і расцягнуў на капыле, цётцы прышыў язычкі, а наймітчцы перашпількаваў падэшвы і перацягнуў заднік".

***

— Скажыце, Маня, ці вы кахалі калі-небудзь?

— А ці ж гэта навіна, вядома.

— Ну, дык як жа, добрым быў раман?

— Не, быў Хвёдар.

***

Сустрэў чалавек кума на фурманцы.

— Што вязеш, куме?

Кум злез з воза, падышоў і на вуха шэпча:

— Авёс.

— А чаму ж ты мне аб гэтым па сакрэту гаворыш?

— Каб конь не пачуў.




***

Малады паніч сустрэў на дарозе вясковую дзяўчыну, што вяла старую кабылу ды весела спявала.

— Цябе нехта пацалаваў, пэўна, што ты вясёлая, — кажа паніч.

— А ці ж пацалунак дадае весялосці? — цікавіцца дзяўчына.

— Вядома, што дадае, — смяецца паніч, — асабліва, калі "ён" пацалуе "яе".

— Калі так, то няхай бы паніч пацалаваў маю кабылу, бо яна ў мяне дужа маркотная.

Рэдактар Генадзь СУДНІК






Інфармацыйна-аналітычная газета, заснаваная Магілёўскай гарадской асацыяцыяй "КОЛА СЯБРОЎ".

*Зарэгістравана ў Дзяржкамітэце Рэспублікі Беларусь па друку за № 831.*

Газета выходзіць па пятніцах, пераважна на беларускай мове..





АДРАС РЭДАКЦЫІ: 212030 г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.



ТЭЛЕФОНЫ: 31-04-15, 22-97-82

... надрукавана афсетным спосабам у Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М.Свярдлова. Зак. 2. Тыраж 2000 асобнікаў. Кошт 2000 руб.